Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

5 снежня 2003 года

№ 49 (450)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

ПЛЮС Тэлетыдзень




Навіны рэгіёну

## Будзе прытулак

МЯДЗЕЛ. На пачатку снежня плануецца адкрыццё прытулку для дзяцей, у якіх пагоршыліся ўмовы жыцця. Прытулак, разлічаны на 15 месцаў, размесціцца ў будынку былога дзіцячага сада. Дзеці змогуць жыць у ім паўгода, пакуль не вырашыцца лёс іх бацькоў.

Святлана ЦІШКО.

## На бальнічны ложак

ВАЛОЖЫН. З нажавым раненнем была дастаўлена ў Івянецкую бальніцу 18-гадовая жыхарка пасёлка Івянец, якая бавіла час у кампаніі з непрацуючымі мясцовымі жыхарамі. У час сумеснага распіцця спіртных напояў сабутыльніца ўдарыла яе нажом у жывот.

Кастусь ЛАДУЦЬКА.

## Змена кіраўніцтва

МАЛАДЗЕЧНА. З пасады загадчыка гарадскога аддзела адукацыі звольніўся Уладзімір Лявовіч. Яго абавязкі выконвае Клаўдзія Перхаровіч. Імя новага загадчыка будзе вядома ў панядзелак, 8 снежня.

Святлана ЦІШКО.

## Памятны знак

СМАРГОНЬ. Памятны знак у гонар 2-х тысячагоддзяў з нараджэння Хрыстовага ўстанаўліваюць на ўездзе ў горад. Работы, якія вядуцца за кошт сродкаў царквы, дзяржаўных арганізацый і прадпрымальнікаў Смаргоні, будуць закончаныя бліжэй да вясны 2004 года.

Святлана ЦІШКО.

## Каледжу – 50

АШМЯНЫ. 50-годдзе з дня свайго заснавання адзначыць у суботу Ашмянскі аграрна-эканамічны каледж. На ўрачыстасць з гэтай нагоды збяруцца былыя і сённяшнія навучэнцы каледжа, грамадскасць.

Марына СЛІЖ.

## Прайшоў марафон

ВІЛЕЙКА. У сераду прайшоў першы дабрачынны марафон для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. На яго адгукнуліся 60 прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў Вілейшчыны, што перадалі сем'ям, дзе выхоўваюцца дзеці-інваліды, прадукты, садавіну, дровы.

Ірына РАБУШКА.

## На ўзроўні

АСТРАВЕЦ. Намеснік міністра сельскай гаспадаркі Мікалай Папкоў, а таксама ўсе начальнікі ўпраўленняў сельскай гаспадаркі рэспублікі завіталі на гэтым тыдні на Астравеччыну. Тут прайшоў семінар, падчас якога госці наведалі жывёлагадоўчыя комплексы "Гервяты" і "Чапаева". Работу астраўчан ацанілі добра.

Ірына РАБУШКА.

# Барацьба за месца

**МАЛАДЗЕЧНА. Ледзь не акцыю пратэсту наладзіў у суботу, 29 лістапада, Валянцін Прысяжны, які прадае шнуркі на рынку райспажыўтаварыства. З белых мяшкоў з-пад цукру ён зрабіў плакаты і павесіў іх ля ўвахода на рынак. «Пакуль мы не арганізуемся, з намі будуць абыходзіцца, як з жывёламі! — крычалі словы са сцяны. — Яны прапануюць мне на старасці хадзіць па рынку, абвесіўшыся таварам», — сказаў Прысяжны ў гутарцы з карэспандэнтам газеты.**

Ніхто яму гэтага, натуральна, не прапануе. Раней пенсіянеры, што гандлююць вязанымі шкарпэткамі, сцілкамі і тапачкамі, стаялі ля рынкавых варот. У выхадныя, калі людзей найбольш, ля ўвахода збіраўся цэлы натоўп з прадаўцоў і пакупнікоў. Каб расчысціць праход, адміністрацыя рынку прапанавала гандлярам заняць восьмы і дзевяты рады, як гэта даўно зрабілі прадаўцы малака і масла. Але за карыстанне гандлёвымі месцамі трэба плаціць 1950 рублёў за дзень. Вось тут і найшла каса на камень. Пенсіянеры, па-першае, плаціць адмаўляюцца, матывуючы тым, што аплата пазбаўляе іх і так невялікага прыработку да пенсіі, і тым, што "малочнікі" гандлююць бясплатна. А, па-другое, баяцца, што на радах, дзе вісяць паліто і блузкі, іх не заўважаць пакупнікі.

Дырэктар рынку **Ганна Сіняўская** патлумачыла, што жыхары вёскі, якія прадаюць свойскія малако, масла, яйкі, маюць права займаць месцы бясплатна. Людзі, што прапануюць прамысловыя тавары, самі прадукцыю не ствараюць, а бяруць тавар на рэалізацыю, таму павінны плаціць. Абураны Прысяжны настойвае на тым, што ён і бабулі са шкарпэткамі прадстаўляюць народныя промыслы. Дырэкцыя рынку з гэтым не пагаджаецца.

Каб лічыцца прадстаўніком народных промыслаў, трэба па-першае, мець дакументы, якія гэта пацвярджаюць. Прысяжны ў інтэрв'ю "РГ" называў сябе прыватным прадпрымальнікам-вытворцам. Аднак дырэктар рынку сказала, што ніякіх дакументаў ён не паказваў. Увогуле ў горадзе няма такога віду дзейнасці, як народныя промыслы. У любым выпадку, па словах Сіняўскай, ніякіх фінансавых выгодаў такое званне не дае: мужчыны, што прадаюць тапарышчы, на агульных правах аплачваюць гандлёвыя месцы. Дарэчы, адно такое месца могуць займаць 2-3 чалавекі. Адпаведна і плата, 1950 рублёў у дзень, дзеліца на двух-трох.




Ледзь не акцыю пратэсту наладзіў 29 лістапада Валянцін Прысяжны, які прадае шнуркі на рынку райспажыўтаварыства.

Фота Святланы ЦІШКО.

Канфлікт паміж адміністрацыяй рынку райспажыўтаварыства і пенсіянерамі, што гандлююць шкарпэткамі, сцілкамі і тапачкамі, доўжыцца ўжо некалькі месяцаў. Кантралёры некалькі разоў на дзень адпраўляюць гандляроў-нелегалаў за межы тэрыторыі рынку. Яны ў сваю чаргу стараюцца паступова падцягнуцца бліжэй да варотаў. Валянцін Прысяжны сказаў, што гатоў звярнуцца ў адміністрацыю прэзідэнта і збірае подпісы калегаў. Дырэктар рынку Ганна Сіняўская ў сераду, 3 снежня, выклікала міліцыю і аддзел па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, бо Прысяжны зноў хадзіў па рынку з плакатамі і шнуркамі. «Рынак – гэта цывілізаваны гандаль, – гаворыць Сіняўская. – А калі ля ўвахода і ў цэнтры рынку людзі прадаюць з рук шкарпэткі, бялізну, а то яшчэ нагатаюць на сябе фартухі, – гэта перашкаджае пакупнікам і ўрэшце неэстэтычна».

Святлана ЦІШКО.

## Моладзь любіць баевікі



Пра гэта сведчыць апытанне, праведзенае сацыяльна-псіхалагічнай службай Вілейскага ПТВ-200.

3-я старонка

## «Смачная» навука



Выхаванцы дзіцячага сада №29 прапануюць фірменны рэцэпт салата "Аліўе".

5-я старонка

## Памяць пра Ермаловіча



У Маладзечне адкрыты помнік гісторыку і літаратуразнаўцу Міколу Ермаловічу.

8-я старонка

■ КОНКУРС

# Агляд лялечных гурткоў

**МАЛАДЗЕЧНА. На заключны тур абласнога агляду-конкурсу лялечных гурткоў «Жывы свет лялек», што адбудзецца 19 снежня ў тэатры «Батлейка», трапілі гурткі «Сонейка» пры Турэц-Баярскай сельскай бібліятэцы і «Кнігі і лялькі» пры маладзечанскай бібліятэцы «Верасок». Яны прайшлі адбор з 4 прэтэндэнтаў. Валожынцы і мядзельцы застануцца дома.**

Гурток "Сонейка" з Турэц-Баяраў выступаў 27 лістапада на занальным адборачным туры разам з двума другімі, пасля валожынскага "Сонейка", з казкай "Заечая капуста" і адразу спадабаўся журы і гледачам. Асабліва ўразіла ігра **Алесі Леановіч**, якая смела імправізавала. Кіраўнік калектыву **Галіна Цярэшка** сказала ў інтэрв'ю, што лялькі і дэкарацыі артысты робяць самі.

Маладзечанскі гурток "Кнігі і лялькі" існуе з 1981 года, але ў конкурсе ўдзельнічаў упершыню. Маленькія артысты паказалі два спектаклі, на заключны тур прайшла казка Уладзіміра Караткевіча "Чортаў скарб".

**Святлана ЦІШКО.**



**Сябры лялечнага гуртка «Сонейка» Турэц-Баярскай сельскай бібліятэкі Алеся Леановіч, Андрэй Дудко, Каця Бажко, Ірына Мялешка, іх кіраўнік Галіна Цярэшка і музычны афармíцель Людміла Фурман прайшлі занальны адбор на абласны агляд-конкурс лялечных гурткоў «Жывы свет лялек».**

Фота Святланы ЦІШКО.

■ СЕМІНАР

## Прыродзе – увагу грамадства

**Умовы ўстойлівага развіцця краіны, грамадства і прыкметы глабальнага крызісу вывучалі на міжнародным семінары ў Калодзішчах прадстаўнікі Івянца і Маладзечна.**

Праблема ўстойлівага развіцця, расказала мэнэджэр адукацыйных праграм грамадскага аб'яднання «Экадом» **Наталля Рабава**, непакоіць многія грамадскія арганізацыі свету, у тым ліку ААН. Таму на міжнароднай канферэнцыі ў 1992 годзе ўстойлівым развіццём вырашылі лічыць такое развіццё, якое дазваляе сучасным пакаленням задавальняць свае патрэбы такім чынам, каб не пазбаўляць наступныя пакаленні магчымасці задавальняць свае.

Удзельнікі семінару з Брэста, Івянца, Ліды, Маладзечна, Бабруйска і Швецыі пагадзіліся з тым, што Беларусь, як і іншыя краіны свету, стаіць перад праблемай глабальнага крызісу не толькі ў экалогіі, але і ў эканоміцы і вытворчасці.

Напрыканцы семінару былі распрацаваныя рэгіянальныя экалагічныя праекты.

**Святлана ЦІШКО.**

## Турнір да свята

**МАЛАДЗЕЧНА. Вызначыліся пераможцы шахматна-шашачнага турніру сярод інвалідаў, што прайшоў 27 лістапада ў брыдж-клубе «Папараць».**

Трыццаць чалавек заявіліся на спаборніцтвы, усе яны ўдзельнічалі. Лепшымі шахматыстамі сталі **Віктар Юша** і **Вольга Грынько**. Першае месца сярод шашыстаў занялі **Аляксандр Нехвядовіч** і **Тамара Бычок**. Грашовыя прызы выдзяліў гарадскі спорткамітэт. Пераможцам далі па 15 тысяч рублёў, за другое месца – 9 тысяч, за трэцяе – 5 тысяч. Акрамя таго, кожны ўдзельнік турніру атрымаў да міжнароднага дня інвалідаў (3 снежня) таксама па 5 тысяч рублёў ад спорткамітэта.

Пасля спаборніцтваў усе сабраліся на салодкі стол, пячэнне, пернікі і зефір для якога дала кандытарская фабрыка "Конфа".

**Святлана ЦІШКО.**

## «Здароваму ладу жыцця – так!»

**ВАЛОЖЫН. Пад такім дэвізам у раёне стартаваў другі этап акцыі па зацвярджэнні здаровага ладу жыцця.**

Калі першы цалкам быў разлічаны на вучнёўскую моладзь і называўся "Студэнт – старшакурсніку, таварыш – таварышу", то другі ахоплівае ўсе слаі насельніцтва. Чытаць лекцыі ў вучнёўскіх і працоўных калектывах будуць спецыяльна падрыхтаваныя лектары з райцэнтра і са сталіцы. Акцыя прадугледжвае безліч спартыўных, пазнавальных і забаўляльных мерапрыемстваў.

Вынікі яе падвядуць у лютым. Тады, напэўна, можна будзе меркаваць аб эфектыўнасці работы.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

■ ПАДПІСКА 2004

Вечар пры свечках на дваіх у маладзечанскім кафэ «Блюз», аўтамабільны акумулятар «Зубр», тваё мастацкае фота ў майстэрні Яўгена Стэльмаха, кафейны сервіз і іншыя прызы разыгрываюцца сярод падпісчыкаў на «Рэгіянальную газету» на першае паўгоддзе 2004 года.

# Падпішыся і выйграй

У розыгрышы прызоў ад «Рэгіянальнай газеты» ўдзельнічаюць падпісчыкі, якія даслалі на адрас рэдакцыі ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2004 года на "Рэгіянальную газету".

Ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2004 года прымаюцца да ўдзелу ў розыгрышы да 30 снежня ўключна.

Розыгрыш прызоў адбудзецца ў другі тыдзень студзеня ў прысутнасці і з удзелам чытачоў газеты, работнікаў рэдакцыі, аўтарскага актыву. Вынікі розыгрышу будуць апублікаваныя ў "Рэгіянальнай газеце".




**Індэкс індывідуальнай падпіскі 63212, кошт на месяц 2460 руб.**
**Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт на месяц 7380 руб.**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ НА ГАЗЕТУ 63212 (63369) (індэкс выдання)

рэгіянальная газета

Колькасць

На 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ месца літара 63212 (63369) (індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА ГАЗЕТУ

рэгіянальная газета

Кошт падпіскі Колькасць

На 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# «Оскар» ад чытача

**Рэдакцыя пры падвядзенні вынікаў работы за гэты год вызначыць пераможцаў у наступных васьмі намінацыях. Просім вас, паважаныя чытачы, дапамагчы зрабіць нам гэты выбар.**

**Лепшая першая паласа** ______

**Лепшы аўтар-карэспандэнт** ______

**Лепшае фота** ______

**Навіна года** ______

**Чалавек года** ______

**Конкурс, гульня года** ______

**Падзея, мерапрыемства года** ______

**Спартсмен года** ______

**Свае прапановы дасылайце да 21 снежня на адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а ці прыносьце ў рэдакцыю. Можна запаўняць не ўсе намінацыі.**

 



■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Моладзь любіць баевікі

**ВІЛЕЙКА. Сучасныя навучэнцы любяць глядзець пераважна камедыі, баевікі, фільмы жахаў. Пра гэта сведчаць вынікі анкетавання, якое правяла сацыяльна–псіхалагічная служба Вілейскага ПТВ–200.**

У анкетаванні ўдзельнічала 50 навучэнцаў па спецыяльнасці майстар сельскагаспадарчай вытворчасці ва ўзросце 16–17 гадоў. Настаўнікі-псіхолагі задалі ім тры пытанні.

Фільмам якога жанру вы аддаяце перавагу?

35% адказалі: камедыі, 30% – баевіку, 20% – жахах, 15% – фантастыцы і 0% – меладраме.

Якія з апошніх фільмаў, якія вы глядзелі, вам запомніліся?

У адказах былі "Тэрмінатар-3", "Матрыца-2", "Брыгада", "Таксі-3", "Ад змяркання да світання-3".

Хто з кінагерояў выклікае ў вас павагу?

Героямі юнакі і дзяўчаты назвалі Джэкі Чана, Жана Клода Вандама і Даніэля, Тэрмінатара, Сашу Белага.

Аналіз анкетавання паказаў, што падлеткі не глядзяць ні беларускія, ні расійскія фільмы. Не глядзяць кіно аб сям'і. Станоўчых герояў яны не ведаюць, а вось "герояў" заходняй масавай культуры, растыражаваных за апошняе дзесяцігоддзе, не толькі знаюць, але і раўняюцца на іх усе. А мы ж імкнёмся выгадаваць патрыёта і сем'яніна.

Сярэдні спажывец інфармацыі, згодна са статыстыкай, праводзіць перад тэлевізарам, камп'ютэрам (Internet, камп'ютэрныя гульні) і слухае радыё прыкладна 4 гадзіны штодня. У падлеткаў гэты паказчык, як правіла, вышэй. Гэтага часу цалкам дастаткова, каб з дапамогай гуку і відэарада сфармаваць у свядомасці часткі гледачоў і слухачоў уяўленні аб жыцці, нават калі гэтыя ўяўленні супярэчаць рэчаіснасці.

Эфектыўнасць электроннага маніпулявання вызначаецца доляй тых, хто паддаецца ўнушэнню. Сучасная тэхніка апытанняў дазваляе прыблізна ацаніць гэты працэнт, які, канешне, залежыць ад некалькіх фактараў – інтэнсіўнасці і працягласці праграм, характару інфармацыі, псіхалагічнага стану і агульнай інфармаванасці адрасатаў, а таксама колькасці выкарыстоўваемых альтэрнатыўных крыніц інфармацыі.

Інтэрактыўныя тэлефонныя апытанні расійскіх гледачоў і слухачоў, якія тэлефануюць на станцыі, паказваюць, што патрэбныя ўяўленні атрымоўваецца ўнушыць ад 50% да 70% апытаных. Больш карэктныя сацыялагічныя даследаванні, дзе прапарцыянальна прадстаўленыя ўсе слаі насельніцтва, даюць меншы працэнт: да 30% – 40% усяго дарослага насельніцтва.

Падлетак, які ўступае ў дарослае жыццё, быццам прымярае на сабе стыль паводзінаў сваіх куміраў. Праблема ў тым, што са станоўчых герояў прымяраць няма каго, а прымерка адмоўных вядзе да здзяйснення злачынстваў.

Успомнім пачатак публікацыі, падлетак праводзіць каля 4 гадзін у інфармацыйнай прасторы, часта абсалютна не падкантрольны ні педагогам, ні бацькам. За тыдзень атрымліваецца 28 гадзін.

Камп'ютэрныя гульні – абсалютна не кантралюемыя або слаба кантралюемыя самыя магутныя крыніцы негатыўнай і лёгка засвойваемай інфармацыі. Дастаткова прачытаць інструкцыю гульні "Некраманія", дзе гаворыцца, што ў кожным з нас жыве цёмная сіла, якая гатовая ў любы момант скінуць аковы і ўзняцца над дробнымі праблемамі чалавецтва. Перад вамі сем стварэнняў Сатаны. Усіх іх аб'ядноўвае адно – вар'яцкае, ні з кім не параўнальнае эгаістычнае жаданне паставіць на калені перад сабой свет, стаўшы адзіным правіцелем Сусвету на доўгія часы.

Сёлета на арганізацыйна-выхаваўчую работу ва ўстановах адукацыі адводзіцца 4 гадзіны ў тыдзень. Такім чынам, педагогі прайграюць па часе, якасці (дастаткова ўявіць, колькі грошай укладаецца ў фільмы і камп'ютэрныя гульні) уздзеяння на падлетка.

Дзяржава павінна спрыяць, каб сродкі масавай інфармацыі стваралі і тыражавалі станоўчых герояў у коміксах, мультфільмах, дакументальных і мастацкіх фільмах і, канешне, камп'ютэрных гульнях. І толькі тады на псіхіку падлетка масіравана будуць уздзейнічаць прыклады станоўчых герояў. Можна будзе спыніць рост злачыннасці сярод падлеткаў.




Сённяшняя моладзь любіць баевікі і страшылкі. Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Фільмам якога жанру аддаяце перавагу**

**Вынікі апытання, праведзенага сёлета ў Вілейскім ПТВ-200 сацыяльна-псіхалагічнай службай гэтай вучэльні.**

| | |
|---|---|
| Камедыі | 35% |
| Баевікам | 30% |
| Жахам | 25% |
| Фантастыцы | 15% |
| Меладраме | 0% |

Адкрыты ўрок вядзе
**Ігар КІЦІКАЎ, kitikoff@tut.by.**

## Лукашэнка незадаволены тэлебачаннем

**МІНСК, 28 лістапада. Прэзідэнт Беларусі выказаў прэтэнзіі да якасці прадукцыі на рэспубліканскіх тэлеканалах.**

Як зазначыў Аляксандр Лукашэнка 28 лістапада на нарадзе, прысвечанай дзейнасці рэспубліканскіх тэлеканалаў, інфармацыйныя праграмы апошнім часам будуюцца паводле прынцыпу паказу катастроф. Адбор фактычнага матэрыялу перадач іншым разам выпадковы, непрадуманы, няма разумнай дыферэнцыяцыі важных і малазначных падзей.

Кіраўнік дзяржавы выказаў меркаванне, што вельмі мала аналітычных, глыбокіх і цікавых тэлепраграм па эканамічнай, сацыяльнай, адукацыйнай, культурнай тэматыцы, і разам з гэтым прысутнічае шмат безгустоўнага, прымітыўнага пераймання замежных тэлевізійных аналагаў. Калі сітуацыя не зменіцца, то можна страціць і сваіго традыцыйнага масавага тэлегледача, мяркуе кіраўнік дзяржавы.

Паводле слоў прэзідэнта краіны, беларускім тэлеканалам «бракуе наступальнасці, у выніку чаго ў людзей ствараецца ўражанне, што ў нас няма выразна акрэсленай дзяржаўнай палітыкі». Як паведаміў А.Лукашэнка, «электронныя СМІ з'яўляюцца не толькі сродкам камунікатыўнага ўздзеяння, але магутным інструментам рэалізацыі палітыкі, што праводзіцца ў краіне».

Прэзідэнт Беларусі падкрэсліў, што «беларускае нацыянальнае тэлебачанне павінна стаць гаспадаром на тэлеэкранах сваёй краіны». На яго думку, роля нацыянальнага тэлебачання асабліва ўзрастае ў святле апошніх падзей. У 2004 годзе пройдуць выбары ў парламент, і, на думку А.Лукашэнкі, у многім ад тэлевізійнай палітыкі будзе залежаць, хто зойме месцы ў заканадаўчым органе краіны, і хто будзе адстойваць інтарэсы беларускіх грамадзян у Нацыянальным сходзе.

Падчас нарады кіраўнік дзяржавы запатрабаваў вярнуць на беларускі тэлеканал «Лад» найлепшую прадукцыю расійскага канала «Культура». Пры гэтым ён зазначыў, што даўно не бачна на экранах высакаякасных беларускіх тэатральных пастановак.

Акрамя таго, прэзідэнт лічыць неабходным, у першую чаргу, вырашыць пытанні павышэння якасці і эфектыўнасці працы тэлерадыёвяшчальнай сеткі, вызначыць парадак фарміравання дзяржаўнага заказу на вытворчасць грамадска-палітычных і грамадска значных праграм і ролю ў гэтай справе ўрада, Міністэрства інфармацыі.

**Паводле БелаПАН.**

■ ЭКАНОМІКА

## Міжнародны прыз

**Двум прадпрыемствам Беларусі ўручаны міжнародны прыз "За найлепшую гандлёвую марку" 2003 года.**

Цырымонія ўзнагароджання, што прысуджаецца Клубам гандлёвых лідэраў са штаб-кватэрай у Мадрыдзе паводле вынікаў апытання кліентаў і спажыўцоў асноўных тавараў і паслуг у розных краінах свету, адбылася ў Рыме.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе МЗС Беларусі, бронзавая статуэтка міжнароднай прэміі прысуджана Дзяржаўнаму нацыянальнаму парку "Белавежская пушча" і унітарнаму прадпрыемству ў галіне дрэваапрацоўкі "Вярба" з Маладзечна.

Сярод узнагароджаных – прадпрыемствы з Еўропы, Амерыкі, Азіі, Афрыкі.

**Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.**

**Курсы валют НБ РБ**

| | 27.11 руб. | 4.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2141,00 | 2145,00 |
| Еўра | 2531,20 | 2595,34 |
| Злоты | 545,16 | 556,78 |
| Літ | 733,13 | 751,73 |
| Расійскі рубель | 72,00 | 72,23 |
| «Вулічныя» курсы ў Маладзечне | | |
| Долар | 2145/2165 | 2145/2165 |

Маладзечна
**Цэны на рынку**

| Прадукты | Цана (руб.) 26.11 | 3.12 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13800 | 13740 |
| Сасіскі, 1 кг | 4600 | 4690 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 900 | 950 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1350 | 1400 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 570 | 570 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 900 | 900 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 780 | 800 |
| Капуста, 1 кг | 150 | 150 |
| Морква, 1 кг | 300 | 250 |
| Лімоны, 1 кг | 3000 | 2950 |
| Апельсіны, 1 кг | 1980 | 1950 |
| Яблыкі, 1 кг | 950 | 950 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2200 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2500 | 2500 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 2200 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |



 

 



■ ВЫХАВАННЕ



Выхаванцы старэйшай групы дзіцячага сада №29 Света Рэут і Уладзік Космач гатуюць салату «Аліўе».
Фота Ірыны РАБУШКІ.

# «Смачная» навука

**МАЛАДЗЕЧНА. Да самастойнасці выхаванцаў дзіцячага сада №29 прывучаюць штодня.**

Цэлы тыдзень выхавацелі **Галіна Шчукліна і Зоя Шнітко** расказвалі дзецям пра посуд і матэрыялы, з якіх выраблялі кружкі, талеркі, відэльцы, каструлі. Не абмінулі і тэму іх прызначэння. А таксама малявалі кухонныя прылады фарбамі, каляровымі алоўкамі. Выразалі «посуд» з паперы, ляпілі з пластыліну. На адзін з заняткаў бацькі прынеслі хатнюю выпечку. Дзеці каштавалі яе і дзяліліся рэцэптамі бабуль і матуль. Выхаванка **Маргарыта Давідзёнак** ведала ўсе інгрэдыенты «свайго» пірага з дакладнасцю да грама.

У адну з пятніц 14 хлопчыкаў і дзяўчынак старэйшай групы самастойна гатавалі салату «Аліўе». З дому кожны прынёс па 2 яйкі, 3 бульбіны, 200 грамаў варанай кілбасы і салёнаму агурку. Маленькім кулінарам так спадабалася гатаваць! Шмат хто з дзяцей адразу захацеў стаць поварам. Некаторыя ж хлопчыкі прызналіся, што ім больш падабаецца есці, чым кулінарыць. Прадукты для «Аліўе» дзеці рэзалі з задавальненнем. Яшчэ з большай асалодай яны надкусвалі яйкі і кілбасу дзе-небудзь пад сталом, каб выхавацелька не ўбачыла. Але... Яна разумее: трымаць такую смакату ў руках і не пакаштаваць проста нельга.

Пасля заняткаў юныя кулінары пайшлі спаць. І, канешне ж, ім сніліся смачныя сны.

Ірына РАБУШКА.

**Рэцэпт фірменнай салаты ад выхаванцаў дзіцячага сада №29 у Маладзечне**

**28 звараных укрутую яек, 42 бульбіны, 2 кг 800 г варанай кілбасы, 12 салёных агуркоў, 2 слоікі кансерв. гарошку, 4 пачкі маянэзу.**

Яйкі, бульбу, кілбасу і агуркі парэзаць (як атрымаецца), пакласці ў вялікі таз. Дадаць кансерваваны гарошак і маянэз. Перамяшаць.

**Есці салату з хлебам. І пачаставаць ёй як мага больш людзей.**

Час, праведзены ў пакоі казак, што ў дзіцячай бібліятэцы «Верасок» у Маладзечне, аказаўся настолькі зараджаным пазітыўнымі эмоцыямі, што гэта не змагло не адбіцца на душэўным настроі.

# У краіне казак

**МАЛАДЗЕЧНА. У невялічкім памяшканні дзіцячай бібліятэкі «Верасок», аформленым пад чарадзейны куток, было вельмі ўтульна, светла, нават неяк па-хатняму мякка.**

Усе гэтыя вялікія каляровыя дзіцячыя кніжкі, плюшавыя звяры, а асабліва акенца, стылізаванае пад сцэнку з "Мухі-Цакатухі", дзе занадта ўжо злосны павук спрабуе падабрацца да далікатнай "мушынай паненкі" па сапраўднай аборачнай павуціне — усё нагадвае аб дзіцячым пакоі, своеасаблівым свеце дзяцінства, куды ў жыцці трапляеш толькі раз. І хоць дзейства не было тэатралізаваным, а нагадвала папулярную тэлегульню: "Хто хоча стаць мільянерам?", дзецям ва ўзросце ад 9-і да 13-і было вельмі цікава. Бо ў адказах на пытані віктарыны "Хто хоча быць казачнікам?" можна не толькі праверыць сябе на эрудыцыю і кемлівасць, але і атрымаць прыз – гадзіну бясплатнай гульні ў камп'ютэрнай зале ці, калі ўжо давялося заблытацца на казачных сцяжынках, заахвочвальны — часопіс "Квач" ("Пятнышки"). Добрым казачнікам хацеў стаць кожны, але ўдалося гэта толькі некаторым: абаяльным **Машы ды Соні Калеснікавым**, няўрымслівым **Сяргею Ганусевічу і Сяргею Алексяеўскаму**, апошні, дарэчы, сцвярджаў, што "той, хто не ідзе на рызыку – не п'е кока-колу", і заўсёды першы спрабаваў даць правільны адказ. Гэта ўсё вучні 8-й школы. Былі таксама і прадстаўнікі з 11-й: **Юля Сырамалот**, якой дасталіся самыя складаныя пытанні, але яна не толькі добра адказала на іх, але і прадэманстравала аргументаванасць доказаў; і **Насця Малько**, самая старэйшая з удзельнікаў віктарыны, стрыманая, але вельмі эрудзіраваная. Трэба дадаць, што прысутным дарослым таксама было весела. Некаторыя з пытанняў прымушалі ў прамым сэнсе чухаць патыліцу і напружана вышукваць знаёмыя назвы ў працьме рознай інфармацыі. Дзецям, канешне, прасцей. Яны, як потым дадала вядучая імправізаванай гульні бібліятэкар **Таццяна Барэйка**, "выязджаюць" на элементарным веданні мульцікаў. І было б куды найлепш, калі б ціперашнія дзяўчынкі і хлопчыкі так цягнуліся да кніг, як ірвуцца ў камп'ютэрную залу. Хаця, калі самы галоўны на сённяшні момант казачны герой Гары Потэр здолеў прыцягнуць увагу дзяцей менавіта да кніг, то не ўсё страчана. А пакою казак у бібліятэцы "Верасок" хутка будзе дзесяць гадоў — узрост таго ж Гары Потэра. **Застаецца, дарэчы, дадаць**, што гасцінны пакойчык казак чакае сваіх наведвальнікаў кожную суботу а 12-й гадзіне.

Таццяна ШЭЛЕГ.

■ СПОНСАРСТВА

# Падарункам радыя

**МАЛАДЗЕЧНА. Цэлы тыдзень у сярэдзіне лістапада гасцяваў у горадзе Герхард Гора, пенсіянер з нямецкага горада Любена.**

Насельніцтва гэтага горада – каля 15 тысяч жыхароў – арганізуе дабрачынныя выставы, канцэрты, кірмашы. На атрыманыя грошы купляюць канцтавары, цацкі, шакалад для кожнага са ста адзінаццаці навучэнцаў школы-інтэрната №2. А цяпер у Любене збіраюць грошы на медыцынскае абсталяванне для кабінета фізіятэрапіі школы-інтэрната.

Дапамагаюць дзецям таксама італьянцы. У маі ад іх прыйшоў гуманітарны канвой: зубная паста, мыйныя сродкі для кухні, сталовай, рыс, мука, цукар, адзенне, абутак. Штогод група выхаванцаў адпраўляецца на адпачынак у Балонью.

Найбольш дапамагае ірландзец **Майкл**. Сваё прозвішча не называе нават дырэктару школы-інтэрната і яго намесніку. Вядома толькі, што гэты чалавек — святар, на маладзечанскі інтэрнат для дзяцей з аслабленым зрокам выйшаў праз мясцовае аддзяленне Царквы поўнага Евангелля. Летась ён, убачыўшы якой старой пральнай машынай карыстаюцца ў інтэрнаце, пайшоў у маладзечанскі універмаг і купіў «Індэзіт». У жніўні гэтага года Майкл набыў для школы-інтэрната 6 прасаў замежнай вытворчасці, ватман, паперу для прынтэра, водаправальнік для кухні, лямпы дзённага святла, фламастэры, ручкі, лінолеум. Цікава, што з усяго Маладзечна сабралі толькі 144 фіялетавыя стрыжні і лінолеум для двух класаў — больш не было. Майкл прапанаваў вадзіцелям выбраць акумулятары для школьных аўтамабіляў і быў вельмі здзіўлены: «Чаму вы выбралі гэта? Не глядзіце на кошт, бярыце тое, што найбольш падыходзіць для машыны», — сказаў ён.

Майкл, жыхары Балоні і Любена, грамадская дабрачынная арганізацыя «Ад сэрца» дапамагаюць вырашаць некаторыя надзённыя гаспадарчыя праблемы. Але дапамога спонсараў вельмі патрэбная выхаванцам інтэрната. Намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Валерый Законнікаў** расказаў, што ёсць план арганізаваць у гульнявым пакоі зімовы сад, у якім раслі б экзатычныя дрэвы і кветкі. «Хочацца стварыць пакой, у якім дзеці маглі б адпачыць, дзе было б утульна і нішто не нагадвала казённых сцены», — сказаў Валерый Законнікаў.

Кававае дрэва ўжо расце, праўда, пакуль што ў выварцы, што засталася ад ранейшага гаспадара. Калі вам надакучыла ваша мандарынавае, апельсінавае, лімоннае дрэва ці які іншы "экзот", выхаванцы інтэрната з задавальненнем прымуць яго ў падарунак.

Святлана ЦІШКО.

■ ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# Памылка Нобеля

**Альфрэд Бернхард Нобель (1833-1896) – буйнейшы шведскі капіталіст 19 стагоддзя, уласнік 93 заводаў, вынаходца дынаміту і іншых выбуховых рэчываў, уладальнік 350 патэнтаў на вынаходніцтвы, доктар філасофіі, акадэмік. У яго гонар названы хімічны элемент №102 нобелій і кратэр на зваротным баку Месяца.**

27 лістапада 1895 года, незадоўга да сваёй смерці, ён напісаў завяшчанне, у якім адзначыў: "Усю маёмасць, якая застанецца пасля мяне, неабходна размеркаваць наступным чынам: капітал мае душапрыказчыкі павінны перавесці ў каштоўныя паперы і стварыць фонд, працэнты ад якога будуць выдавацца ў выглядзе прэміі тым, хто на працягу папярэдняга года прынёс найбольшую карысць чалавецтву. Указаныя працэнты патрэбна падзяліць на пяць роўных частак, якія прызначаюцца: першая частка таму, хто зрабіў найбольш важнае адкрыццё або вынаходніцтва ў галіне фізікі, другая – таму, хто здзейсніў буйнае адкрыццё ці ўдасканаленне ў галіне хіміі, трэцяя – таму, хто дабіўся выдатных поспехаў у галіне фізіялогіі або медыцыны, чацвёртая – стварыўшаму найбольш значны літаратурны твор, які адлюстроўвае чалавечыя ідэалы, пятая – таму, хто ўнясе важкі ўклад у згуртаванне народаў, знішчэнне рабства, памяншэнне колькасці існуючых армій".

Між тым першапачаткова Альфрэд Нобель планаваў прысуджаць прэмію ў галіне матэматыкі. Але, як гэта нярэдка бывае, у гісторыю ўмяшаўся выпадак.

Аднаго разу, праглядваючы папярэдні спіс магчымых кандыдатаў, Нобель звярнуў увагу на свайго суайчынніка, вядомага матэматыка Магнуса Густава Мітаг-Лефлера, адносіны з якім былі не вельмі добрыя. Справа ў тым, што яны заляцаліся да адной і той жа дзяўчыны, але яна аддала перавагу апошняму... Закранутае самалюбства вялікага вучонага адыграла сваю ролю: шлях да Нобелеўскіх прэмій назаўсёды закрыўся для ўсіх матэматыкаў. Гэта, бадай, было вялікай памылкай Нобеля. Пазней была заснавана прэмія Мітаг-Лефлера, але яна не змагла стаць папулярнай. Выправіць становішча ўзялася Венгерская акадэмія навук. У 1905 годзе (праз чатыры гады пасля ўручэння першых Нобелеўскіх прэмій) яна ўстанавіла міжнародную прэмію Янаша Бальяі для матэматыкаў, якая ўручалася раз у пяць гадоў.

Больш пашчасціла прэміі з фонду Філдса. Ёй і дагэтуль заахвочваюцца маладыя таленавітыя матэматыкі. Менавіта ў гэтага чалавека ўзнікла ідэя выправіць памылку "караля дынаміту". Філдс не быў такім багатым, як Нобель, тым не менш ён завяшчаў большую частку сваёй маёмасці заснаванаму ім фонду. У верасні 1932 года, праз месяц пасля смерці вучонага, Міжнародны матэматычны кангрэс вырашыў назваць фонд яго імем.

...Між іншым з 1969 года Нобелеўскую прэмію сталі прысуджаць ў галіне эканомікі. Зараз цяжка сказаць, ці была б выпраўлена памылка Нобеля, калі б не Філдс.

Мікола ЛІПСКІ.

 

■ З ГІСТОРЫІ ПАСЕЛІШЧА

# Мядзел ці Мядзель?

**Нярэдка можна пачуць, як адны людзі кажуць: "Еду ў Мядзел", а другія – "Запрашае мяне сябар у Мядзель". Не думайце, што гэта розныя населеныя пункты, у розных кутках Беларусі. Гэта адзін і той жа горад на беразе возера Мястра. Дык чаму так атрымалася, што гэтае самае "л" гучыць то цвёрда, то мякка?**

...Упершыню, у дакуменце за 1324 год, паселішча ўпамінаецца пад назвай Мядзела. Яго жыхары жылі на востраве возера ў "горадзе Мядзіла". З-за хваробы шмат людзей памерла, а тыя, хто ўцалеў, падаліся на поўдзень і пасяліліся на беразе сённяшняга возера Мястра. На гістарычных картах за 1613, 1614, а таксама за 1645 год значыцца Мядзел.

Назва Мядзел (Мядзела) захавалася да 17 верасня 1939 года. А потым, калі былая Заходняя Беларусь была ўз'яднана ў адну дзяржаву з усходняй яе часткай, сюды прыехала з усходніх абласцей Беларусі шмат настаўнікаў, культработнікаў, гаспадарнікаў, партыйных, камсамольскіх работнікаў, каб па-новаму ладзіць асвету, культуру, органы ўлады і іншае. Іх здзівіла, што тутэйшыя жыхары вымаўляюць Мядзел, а не Мядзель.

— Ёсць жа Лепель, Капыль, Скідзель, Суздаль. Трэба да іх "далучыць" райцэнтр Мядзел, не стаяць яму на абочыне. Будзем называць і пісаць па-новаму – Мядзель, — казалі яны.

Некаторыя мясцовыя жыхары на "ўра" сустрэлі гэту прапанову: трэба ж неяк выслужыцца перад начальствам.

Не стаў на гэты шлях вядомы наш зямляк Максім Танк, які раней пісаў: у Мядзеле, за Мядзелам, наш Мядзел, так працягваў і гаварыць, і пісаць усё сваё жыццё.

Сваяк і хрэснік Максіма Танка, ураджэнец вёскі Пількаўшчына Мядзельскага раёна Іосіф Скурко (аўтар песняў "Верасы", "Бацькоўскі парог", "Свіцязянка", аўтар зборнікаў вершаў "Веснiцы", "Бацькоўскі парог") у сваім вершы "Мядзел" піша: "Мядзел, прымі сыноўні мой паклон".

Аўтар "Слоўніка назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці" (Мінск, выдавецтва "Навука і тэхніка", 1981) Я.Н.Рапановіч піша: Мядзел (-ла, -ле), Мядел (Мядела).

Як бачым, у рускім варыянце абыходзіцца без мяккага знака.

У раённай кнізе "Памяць" шмат разоў упамінаецца Мядзел, Мядзела.

Знакаміты Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка перад першай сусветнай вайной вучыўся ў мястэчку Мядзел. Потым звеДаў ссылку ў Сібір (пры Савецкай уладзе), правёў у ёй шмат год. І толькі ў 1958 годзе атрымаў магчымасць наведаць Беларусь. Зазірнуў у Мядзел. І адразу на паперу леглі паэтычныя радкі верша: "Ля Мядзела ёсць возера адно".



Горад Мядзел размешчаны на беразе маляўнічага возера Мястра.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Сёння адны кажуць:

— Калі гаворыш ці чуеш Мядзель, дык мяккасць "л" лашчыць слых, чуеш напеўнасць гэтага гука.

Другія не здаюцца:

— Цвёрдае "л" сведчыць пра тое, што наш Мядзел меў цвёрды поступ у мінулым, непахіснасць абаронцаў старажытнага замка ў ім, не меў ніякай літасці да фашысцкіх захопнікаў.

Трэція дадаюць:

— Абласная і рэспубліканскія газеты так упадабалі Мядзель, што ніяк не могуць развітацца з мяккім знакам. Толькі "Нарачанская газета" і "Рэгіянальная газета" кіруюцца правільным шляхам: абыходзяцца без мяккага л.

— Ведаеце, што кажуць нашы суседзі-украінцы? "Назаві хоць гаршком, але не стаў у печ". Няхай жыве, шырыцца наш горад, няхай здаровымі, шчаслівымі будуць усе мядзельцы. Напэўна, будучае пакаленне вырашыць, як вымаўляць Мядзел, ці Мядзель. Яны будуць больш ініцыятыўнымі, адукаванымі, зазірнуць у глыбіню стагоддзяў і па архіўных дакументах вызначаць сапраўдную назву горада на беразе возера Мястра ў Мядзельскім раёне, – кажуць чацвёртыя.

А вы, чытачы, як мяркуеце?

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ ГАНДАЛЬ

## Дало імя Даўгінава

**МІНСК. Даўгінава, вядомае ў нашым рэгіёне мястэчка, дало імя новаму рынку пад Мінскам. 1 снежня, як паведамляе БелаПАН, у пасёлку Навінкі, што ў межах Мінскай кальцавой дарогі, пачаў працаваць новы харчовы і прамтаварны міні-рынак «Даўгінаўскі», пабудаваны вытворчым гандлёвым унітарным прадпрыемствам «Ноў-Юпітэр». Калі быць больш дакладным аб назве рынку, то ён знаходзіцца паблізу галоўнай тут транспартнай артэрыі – старажытнага Даўгінаўскага тракта.**

Як паведаміў БелаПАН дырэктар «Ноў-Юпітэр» Міхаіл Лосеў, міні-рынак плошчай 0,57 гектара складаецца з 33 гандлёвых кіёскаў, 10 павільёнаў, 14 кантэйнераў, а ў перспектыве тут з'явіцца кафэ.

На рынку таксама функцыянуе разлікова-касавы цэнтр і пункт абмену валют, аўтастаянка на 50 месцаў, санвузлы.

Паводле слоў М.Лосева, рынак быў «проста неабходны» ў раёне, дзе знаходзіцца рэспубліканская клінічная псіхіятрычная бальніца, інстытут пералівання крыві, інтэрнаты, індывідуальнае жыллё, манастыр, і дагэтуль не было арганізаванага гандлю.

Сёння на рынку пачалі сваю працу персанал абслугоўвання і прадпрымальнікі, урачыстае адкрыццё і прыём наведнікаў намечаны на найбліжэйшыя выхадныя.

**Аддзел інармацыі "РГ".**

■ НАША ПОШТА

## Зноў пра Вілейскую турму

**Вілейская турма. У справе па гэтым злачынстве пакуль нельга ставіць кропку. І не важна, што з моманту закрыцця вязніцы мінула шмат год. З кожным разам з'яўляецца ўсё больш новых звестак аб гэтым месцы.**

Ведаючы маё зацікаўленне гісторыяй турмы, мне патэлефанавала пенсіянерка–вілейчанка В.У.Анучына. Яна распавяла наступнае.

Быў 1962 ці 1963 год. Анучынай і яе аднакласнікам было па 15 год. Толькі пачала працаваць у новым будынку СШ №1. Дзевяцікласнікі, сярод якіх была і Анучына, вярталіся са школы дадому паўз могілкі, турму. Аднойчы зайшлі ў турму.

– Як разумею, – расказвае вілейчанка, – яна ўжо не працавала. Засталася толькі брыгада аховы, якая ў той час займалася сваімі справамі. Таму мы беспераШкодна ўвайшлі ў вязніцу. У такім месцы мы былі ўпершыню. Усё нас здзівіла і ўразіла.

Школьнікі праніклі ў адну з камер. У куце вялікімі стосамі валяліся лісты вязням ад родных. Падлеткі пачалі іх чытаць. У адным з лістоў жонка пісала свайму мужу аб цяжкасцях жыцця. Гэта быў ліст–жальба.

Ахоўнікі заўважылі няпрошаных гасцей. Што было далей, Анучына не памятае:

—Напэўна, казалі, што сюды прыходзіць нельга. Але турма нас заўсёды хвалявала.

Па сведчаннях Анучынай, дзеці, якія жылі побач па вуліцы Молакава, калі капалі агарод, знаходзілі косці. Па яе меркаванні, гэта былі астанкі людзей.

У мяне ўзнікае пытанне. Ці змаглі прачытаць гэтыя лісты тыя, для каго яны былі напісаныя? Напэўна, не. У супрацьлеглым выпадку пісьмы былі б у сваіх "гаспадароў". І можна толькі сабе ўявіць, пра што думалі родныя вязняў, не атрымаўшы адказу на допіс...

**Сяргей МАКАРЭВІЧ, Вілейка.**

## Дапамагаюць людзям

**ВІЛЕЙКА. Амаль 10000 гараджан і вяскоўцаў абслугоўвае мясцовае аддзяленне сацдапамогі.**

У кожнага работніка — 8-10 падапечных, для іх трэба прынесці ежу, лекі, а таксама ў хаце прыбраць, дроў назапасіць. Сацыяльныя работнікі кажуць, што дагадзіць бабулям і дзядулям цяжка. Да кожнага трэба мець свой падыход, кожнага выслухаць. Лідзія Саўчыц, якая абслугоўвае гараджан, расказвае, што ў асобныя дні гадзінамі слухае расказы сваіх падапечных пра маладосць, пасляваенныя, калгаснае жыццё. Пра гэта, а яшчэ пра палітыку яны любяць гаварыць.

Тацццяна Маркевіч абслугоўвае вёскі Асіпавіцкага сельсавета. Стараецца быць ветлівай. Калі трэба, то і 2-3 разы на дзень да чалавека прыходзіць. За што людзі яе паважаюць.

**Ірына РАБУШКА.**

■ КУЛЬТУРА

## Аб'ядналa «Валажанка»

**ВАЛОЖЫН. "Валажанкай" назвалі свой клуб, які стаў працаваць пры раённым Доме культуры, валожынскія жанчыны. У склад яго ўвайшлі тыя з прадстаўніц прыгожай паловы, якія не дасягнулі яшчэ пенсійнага ўзросту.**

Зараз яны разам з метадыстам цэнтра культуры мясцовай паэткай Валянцінай Русакевіч рыхтуюцца да першага пасяджэння клуба. Жанчыны спадзяюцца, што пройдзе яно цікава, і сяброў у "Валажанкі" стане больш.

**Наталля Валынец.**

## Прайшла выстава

**У старажытным Нясвіжы прайшла выстава "Вобразы мілыя роднага краю". На працягу трох тыдняў у выставачнай зале нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" экспанаваліся работы маладзечанскіх мастакоў. Экспазіцыю падрыхтаваў Мінскі абласны краязнаўчы музей.**

Гледачы радаваліся сустрэчам з творамі Кастуся Харашэвіча, Ядвігі Раздзялоўскай, Юрыя Герасіменкі-Жызнеўскага, Міколы Аўчыннікава.

Маладзечанская выстава ў Нясвіжы – яскравае сведчанне важнасці міжрэгіянальных культурных, асветніцкіх сувязяў. Мажліва, карысна было б выходзіць у "вялікі свет" не толькі з мастакамі, але і з гісторыка-краязнаўчымі выставамі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Укралі баявыя ўзнагароды

МАЛАДЗЕЧНА. Двое невядомых у Красным а палове 9-й вечара ўварваліся ў дом ветэрана вайны 1924 года нараджэння. Самога гаспадара ў гэты час дома не было. Злачынцы ўдарылі жонку, затым звязалі яе. Збілі і звязалі іх сына-інваліда. І, перавярнуўшы ўсё дагары нагамі, укралі 2 ордэны Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступеняў, ордэн Чырвонай Зоркі, баявыя медалі. "Начных гасцей" пакуль шукае міліцыя.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА.**

## Скралі лангепаскую калекцыю

МЯДЗЕЛ. Яшчэ і прапісацца не паспеў у Беларусі жыхар цюменскага Лангепаса, як аказаўся ў "разбітага карыта". Толькі зняў пакой у адной з жыхарак Мядзела – і ўжо быў абкрадзены. Не гэтульки пральнай машыны шкада госцю Нарачанскага краю, як фалерыстычнай калекцыі з 200 прадметаў, а таксама сур'ёзнага збору манет. Ва ўчыненні злачынства падазраецца жыхар Мядзела, які з райцэнтра знік.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА.**

## Сцеражыся махляроў

**СМАРГОНЬ. Махляры працягваюць "гастраляваць" па нашым рэгіёне.**

Белая іншамарка спынілася на вясковай вуліцы апоўдні. Старыя здзівіліся. Слабада – вёска маленькая, нават аўталаўка сюды не заязджае.

Малады, інтэлігентнага выгляду мужчына зайшоў у хату да бабулі. Прывітаўся занадта ўжо ветліва, нават у руку старую пацалаваў. Гэта яе і насцярожыла. А той прадставіўся работнікам сацыяльнага забеспячэння з Гродна і пачаў пытацца, колькі пенсіі атрымлівае дзевяностагадовая Алена Гаўрылёнак і яе дачка-пенсіянерка. Паабяцаў дабаўку, толькі ўзнос трэба ўнесці, шэсцьдзесят тысяч.

Гэты ж мужчына пабываў у іншых вясковых хатах, а вось туды, дзе на панадворку чуліся галасы і гамана, не зазірнуў.

Напэўна, махляры, што аблапошвалі пенсіянераў у Ашмянскім раёне, перабраліся ўжо на Смаргоншчыну.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

## Без рук і ног

**АСТРАВЕЦ. Менавіта такую перспектыву прапанавалі два браты і іх сябрук для жыхароў вёскі Варняны.**

Аднаго з іх яны вывезлі на аўтамабілі "Аўдзі" ў лес і пагражалі адрэзаць ногі бензапілой. Падобны нумар яны зрабілі і з другім вяскоўцам, але з той розніцай, што пагражалі адрэзаць рукі. Вядзецца следства.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ КОНКУРС

# Выйграй прыз ад 1-й Акумулятарнай

**Конкурс, які "РГ" праводзіць разам з 1-й Акумулятарнай кампаніяй, збірае ўсё больш прыхільнікаў. Кожны першы нумар месяца – новая магчымасць выйграць прыз.**

Месяц таму мы прапанавалі з трох варыянтаў адказу выбраць правільны. Пытанне было наступным:

"Герой кінакамедыі, страхавы агент Дзетачкін, які валодае абвостраным пачуццём справядлівасці, паставіў на паток крадзяжы легкавікоў, якія, па яго звестках, былі набытыя несумленна. Вырučаныя грошы ён пераводзіў дзіцячым дамам – і лічыў, што дапамагае правасуддзю. Як завецца кінафільм, дзе расказваецца гэтая гісторыя?"

Правільны адказ мы знайшлі ў допісах маладзечанцаў **Андрэя Глінскага, Жанны Баслык, Сяргея Глінскага, Алега Ягорава, Наталлі Коўзы, Аляксандра Пакладка, Т.Праўлоцкай, Анатоля Шпілеўскага, Іны Бабецкай, П.Шэлега, Паўла Сярпейкі, М. Сярпейкі, В.Сярпейкі**, віляйчан **Аляксандра Вярбіцкага, Наталлі Герасімовіч**, жыхаркі вёскі Трапалава пад Маладзечнам **Ларысы Сергіевіч**.

Жэрабя, разыгранае сярод іх, выпала на **Іну Бабецкую**. Чакаем яе ў рэдакцыі, каб уручыць каністру высакаякаснага маторнага масла ТНК.

## Адкажыце на пытанне

Калі вадзіцель ў калегі просіць "прыкурыць", гэта азначае:

**1. Дамашнія выкінулі цыгарэты з кішэняў вадзіцеля,**
**2. Шафёр вымачыў запалкі,**
**3. Акумулятар – дрэнь.**

Дасылайце адказы, калі ласка, на паштоўках. Тэрмін прыёму іх – да 25 снежня. Вынікі чарговага тура будуць апублікаваныя ў наступным выпуску "Аўта–мота" ў першым нумары наступнага года.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ РЫНАК

## Батарэі ZAP

Акумулятарныя батарэі польскай фірмы ZAP, якія ўсё часцей можна сустрэць на беларускім рынку, паспяхова прадаюцца ў 20 краінах. Як вынік паспяховай экспансіі ZAP на рынкі Еўрасаюза, ZAP атрымаў сёлета 2 важныя прызы за акумулятар серыі CALCIUM – "Лідэр рынку" і "Еўралідэр-2003".

**Паводле www.zap.pl**




**Памятнымі знакамі, якія ўручаюцца разам з прэміямі "Лідэр рынку" і "Еўралідэр-2003", адзначаная сёлета якасць вытворцаў акумулятараў ZAP серыі CALCIUM.**

Фота www.zap.pl

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ХОРХ-853 (Horch-853)

**Нямецкая аўтамабільная марка "Хорх" намінальна спыніла сваё існаванне ў 1957 годзе, калі прадпрыемства было нацыялізаванае і атрымала іншую назву. Але імя Аўгуста Хорха да гэтага часу праносяць па дарогах свету яго цудоўныя аўтамабілі.**

У далёкіх 1906–1909 гадах папулярнасцю карысталіся "Хорх–зэт" з 22–сільным рухавіком (2725 куб. см). Выпушчана іх было 307 штук. Гэтыя аўтамабілі былі ў цэнтры Берлінскага і Парыжскага аўтасалонаў ў 1906 годзе.

У пачатку 1930–х гадоў папулярным становіцца "Хорх–670" з 12–цыліндравым рухавіком і рабочым аб'ёмам рухавіка 6 літраў. Але вяршыняй творчасці паслядоўнікаў Хорха прынята лічыць аўтамабіль "Хорх 853" і яго мадыфікацыі – спорт–кабрыялет, седан кабрыялет, седан, купэ і інш... Выраблены па спецыяльным заказе і ў вельмі малой колькасці, гэтыя прыгажуны знаходзіліся ў карыстанні вышэйшых чыноў рэйха і вельмі заможных людзей.

**Паводле Autonet.ru**



**Аўтамабіль пачатку другой сусветнай вайны "Хорх 853 А" быў надзвычай папулярным у вышэйшага кіраўніцтва гітлераўскай Германіі.**

Фота з архіву "РГ".

### Тэхнічныя характарыстыкі аўтамабіля Хорх 853 А (1938 – 1939 гадоў выпуску)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Рухавік | Радны 8–цыліндравы | Нажны тормаз | барабаны на ўсіх колах |
| Дыяметр цыліндра | 87 мм | Ручны тормаз | механічны на заднія колы |
| Ход поршня | 104 мм | База | 3300–3450 мм |
| Рабочы аб'ём | 4944 куб. см | Каляіна пярэдняя | 1510 мм |
| Магутнасць | 120 к.с. пры 3600 аб/мін | Каляіна задняя | 1515 мм |
| Ступень сціскання | 1:1,6 | Габарыты (д/в/ш) | 5350/1560/1810 |
| Карбюратар | 2–камерны Solex 35 JFF | Радыус развароту | 7 м |
| Сістэма змазкі | 10 л масла | Вага | 1900 кг |
| Сістэма ахаладжання | 24 л | Максімальная агульная вага | 2450 кг |
| АКБ | 12 v, 75 ah | Расход паліва на 100 км | 22 л |
| Каробка перадач | 4–ступен. | Ёмістасць бака | 95 л |
| Перадатачны лік | I-3.77; II-2.10; III-1.36; IV-1.00; задняя -3.90 | Максімальная хуткасць | 140 км/г |

■ ІМЁНЫ

# Аўгуст Хорх – бацька сямейства Audi

**Аўгуст Хорх (August Horch) нарадзіўся 12 кастрычніка 1868 года ў нямецкім горадзе Вінінген на Мозэлі ў сям'і каваля. Памёр 3 студзеня 1951 года сусветна вядомым інжынерам і прамыслоўцам. Ён – бацька двух аўтамабільных брэндаў – Хорх і Аўдзі.**

У 13 гадоў Хорх мусіў кінуць школу, каб дапамагаць сям'і. У 16 паступае на вагонабудаўнічы завод, дзе напрасоўваў стальныя бандажы на колы. Менавіта ў час працы на вагонабудаўнічым заводзе склаліся такія рысы яго характару, як мэтанакіраванасць, напорыстасць і няўжыўчывасць. Толькі ў 20 гадоў ён змог сур'ёзна вучыцца.

У 27 гадоў ён ужо кіраваў вытворчасцю Бэнца. Менавіта там ён пазнаёміўся са спецыфікай вытворчасці аўтамабіляў. Праз 3 гады Хорх пакінуў Бэнца і пачаў будаваць у былой стайні свой уласны аўтамабіль. Годам пазней машына стаяла на колах.

У 1903 годзе з капіталам у 30000 марак Хорх заснаваў фірму August Horch & Ko, Motorwargenwerke. Першы створаны тут аўтамабіль 18/



**Аўгуст Хорх (1868 – 1951). Адзін з першапраходцаў аўтамабілебудавання ў Германії. З яго імем звязаныя сусветна вядомыя мадэлі Хорх і Аўдзі.**

Фота Autonet.ru

22 PS быў аснашчаны 4–цыліндравым рухавіком. Ён вынайшаў бясшумную каробку перадач. Перамога доктара Стоссэ на аўтагонках у 1906 годзе на машыне тыпу 18/22 PS прынесла фірме не толькі спартыўную славу, але і вялікую колькасць заказаў.

Затым былі няўдачы, якія абвастрылі рознагалоссі Хорха з акцыянерамі, якія ўсё часцей называлі канструкцыі Хорха авантурнымі. Хорх, напрыклад, яшчэ ў тыя часы выступаў за стварэнне нясучага кузава, прыводзіў у прыклад кузавы конных экіпажаў, шматлікія з якіх сапраўды былі такімі. Але на пачатку 20–га стагоддзя такая ідэя здавалася абсалютна фантастычнай. А ісці на кампрамісы самалюбівы Хорх не ўмеў.

19 чэрвеня 1909 года стваральніку фірмы давялося яе пакінуць. Канструктару выплацілі смешную кампенсацыю – 25 тысяч рэйхсмарак. У той час як аўтамабіль Хорх–ZD каштаваў 15 тысяч.

Праз месяц Хорх у горадзе Цвікау заснаваў новую фірму August Horch Automobilwerke GmbH. Але і першая фірма насіла імя "Хорх". Таму новыя гаспадары яе падалі ў суд і выйгралі яго. Давялося задумацца над іншай яе назвай.

Дома ў аднаго з кампаньёнаў Хорха ішлі з гэтай нагоды бурныя дэбаты. Легенда расказвае, што ў гэты час у суседнім пакоі сын гаспадара вучыў лаціну. І калі адзін з акцыянераў ускрыкнуў: "Выслухайце і другі бок!", хлопчык ці то жартам, ці то сур'ёзна галасна пераклаў гэтую фразу на лаціну: "Audiatur et altera pars!". Тут дарослыя дайшлі, што "Horch" (у нямецкай мове – "слухаць, прыслухоўвацца") перакладаецца на лацінскую мову, як "audi". Новая фірма атрымала назву "Audi Automobilwerke GmbH".

Пачынаючы справы на новай фірме, Хорх казаў, што пры ўсіх абставінах імкнуўся будаваць толькі вялікія і добрыя аўтамабілі з першакласнага матэрыялу. І сапраўды, Audi таксама, як і Horch, сталі такімі.

Новы завод пачынаў з даволі салідных і магутных машын. Ад 1910 года выпускалася "Аўдзі–А10/22". Цыліндры, як было прынята ў тыя часы, былі зблакіраваныя папарна. Чатырохцыліндравы рухавік з рабочым аб'ёмам 2612 куб. см развіваў магутнасць 22 к.с. Фірма рэкламавала сябе вялікімі плакатамі са словам "Audi" і выявай вялікага вуха. Так з'явілася адна з самых вядомых і сёння марак аўтамабіляў.

На парозе 1930–х ён становіцца членам Савета Міністэрства транспарту і прэзідэнтам Германскага саюза аўтамабільных спецыялістаў. Хорх пастаянна прысутнічаў на публічных мерапрыемствах і ўжо ніколі не вяртаўся да канструявання аўтамабіляў, але ў 1930 годзе ў друку можна было прачытаць аб'яву: "У крытычных выпадках звяртайцеся за парадай да доктара інжынера Хорха".

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Памяць пра Ермаловіча

**МАЛАДЗЕЧНА. Колькасць людзей, што прыйшлі 28 лістапада на адкрыццё помніка гісторыку і літаратуразнаўцу Міколу Ермаловічу, шчыра кажучы, здзівіла. Здавалася: ну, будзе чалавек 10-15 ад грамадскіх і палітычных арганізацый горада плюс прадстаўнікі гарвыканкама. Але народу сабралася з паўсотні. Для райцэнтра гэта многа. Асабліва, калі ўлічыць, што адкрыццё адбывалася ў пятніцу з 15.00: большасць маладзечанцаў, якія ведаюць пра Ермаловіча, каштоўнасць яго даследаванняў і маглі б ацаніць такую падзею, як адкрыццё помніка, у гэты час працавала.**



Так выглядае помнік Міколу Ермаловічу, урачыстае адкрыццё якога адбылося ў Маладзечне на скрыжаванні вуліц Віленская і Валынца 28 лістапада.

Фота Святланы ЦІШКО.



На адкрыцці помніка Міколу Ермаловічу, што адбылося 28 лістапада ў Маладзечне, сабралася каля 50 чалавек.

Фота Святланы ЦІШКО.

Яшчэ да пачатку афіцыйнай часткі быў разгорнуты бел-чырвона-белы сцяг з шасціканцовым крыжам грамадскага аб'яднання «БНФ "Адраджэнне"». Скандалу, патрабаванняў згарнуць сцяг і пакінуць пляцоўку не было.

Памятны знак быў пад покрывам, стаялі мікрафоны, вайсковы аркестр трымаў музычныя інструменты напагатове. За тыдзень, што прайшоў ад моманту ўстаноўкі памятнага знака, работнікі "Камунальніка" паспелі пакласці вакол яго плітку, зрабіць бардзюры і клумбы. Покрыўку знялі, і ўсе ўбачылі камень у рост чалавека, на ім мемарыяльная дошка з надпісам "Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі" і барэльефам. Зрэшты, усе ахвотныя маглі паглядзець на помнік за некалькі дзён да яго адкрыцця.

Першым слова меў **Анатоль Белы**, член Саюза мастакоў Беларусі, ініцыятар ушанавання памяці пра Ермаловіча. Затым выходзілі пісьменнік **Генрых Далідовіч** і старшыня гарсавета дэпутатаў **Данілея Жук**, скульптар **Уладзімір Мелехаў** і намеснік старшыні гарвыканкама **Наталля Шмакава**, акадэмік **Аляксей Салламонаў** і брат гісторыка **Валянцін Ермаловіч**, галоўны рэдактар альманаха "Куфэрак Віленшчыны" **Міхась Казлоўскі** і **Пётр Краўчанка**. Некаторыя выступоўцы заканчвалі сваю прамову словамі "Жыве Беларусь!", на якія натоўп не забываўся адказваць "Жыве!".

Не абышлося без рагочучых школьнікаў, якіх "арганізавалі на мерапрыемства". Але ўвогуле кампанія падабралася вельмі прыемная, амаль усе адзін аднаго ведалі. Хадзіць ад адной групкі да другой і размаўляць "за жыццё і палітыку" можна было доўга, але праз гадзіну, пасля таго, як усклалі кветкі, усё было скончана. Людзі, гэтак жа групкамі, абмяркоўваючы нешта сваё, пачалі разыходзіцца.

**Святлана ЦІШКО.**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Стараверы жывуць у Слабадзе на Смаргоншчыне

**СМАРГОНЬ. Гаворка ў гаспадыні расейская, правільная, без звыклага для гэтай мясцовасці беларуска-польскага акцэнту і нязменнага ўжывання мясцовых дыялектаў.**

Такую нязвычна чуць тут, у аддаленай і пакінутай вёсачцы, дзе на дзесяць двароў дванаццаць жыхароў. Палова дамоў забітая і на чалавечае жытло не падобная – састарэла, рассыпалася і пазірае на свет запаўшымі вачніцамі вакконных праёмаў.

Забітыя накрыж вокны – жалобны сімвал смерці.

Мы спынілі машыну ля хаты хоць і старэнькай, але акуратнай, дагледжанай, з плотам вакол гародчыка. Вялікі сабака азваўся брэхам на з'яўленне ў двары незнаёмых людзей.

У хаце ўразіла чысціня і нейкая асаблівая ўтульнасць, якой патыхала ад вышэйшай з моды, але яшчэ дыхтоўнай мэблі, ад мілых, вышытых крыжыкам карцін на сцяне, і стала, засцеленага цяжкім абрусам.

— Вы расіянка? – пытаюся ў сямідзесяціпяцігадовай Настассі Цімафееўны Гаўрыленкі, заўважыўшы, як правільна будуе яна выразы, наўмысна пазбягаючы неўласцівых рускай мове слоў.

— Нет. Я родилась в Богданове. Сейчас это Воложинский район. І не была ни разу в России. А что до разговора, так у нас в деревне все так говорят. Старообрядцы мы.

Слабада – адзіная вёсачка ў Смаргонскім раёне, дзе здаўна жылі стараверы. Ствaралі сем'і, жаніліся і старэлі, строга захоўваючы сваю веру і яе патрабаванні. Усё гэта не перашкаджала ім жыць у суседстве з каталікамі, якіх большасць у Кушлянскім сельсавеце на Смаргоншчыне. Вера выстаяла вякамі пад ганеннямі і рэпрэсіямі. І вось зараз не мінуў і яе заганны ўплыў навамодных звычак.

Што вёска была калісьці акуратнай і дагледжанай, пра тое сведчаць рэшткі былога дабрабыту. Вось і водаправод па вёсцы пракладзены, і некаторыя водаразборныя калонкі адрамантаваныя і ўцепленыя да зімы.

Некалі, памятае Настасся Цімафееўна, у вёсцы і царква стараверская была, ды пабурылі яе новыя ўлады.

З бальшака да Слабады вядзе ўкатаная дарога, якая раптам рэзка спыняецца, упёршыся ў нежылую хаціну, і, быццам падумаўшы хвіліну, разыходзіцца двума промнямі ў супрацьлеглыя бакі. Бліжэй да канцоў вясковай вуліцы праезная частка ўсё больш сціраецца і губляецца, раствараючыся ў неўзаранай цаліне і сіненючым адразу за вёскай лесам. Яны і хаціны свае ставілі не кучна, а так, каб прастора была і жыццё кожнай сям'і не мазоліла вочы іншым. Ды і дамы іх, пабудаваныя па стараверскіх традыцыях, дакладна паўтараюць форму вёскі. З веранды ў жылле два ўваходы вядуць. Адзін на жылую палову, старанна зберагаемую ад чужых вачэй. Туды гасцей не запрашаюць і не пускаюць. Ёсць і іншая, гасцявая, заўсёды адчыненая для добрага чалавека.

Настасся Цімафееўна Гаўрыленка ўсё жыццё палявода́м у калгасе працавала. Таму і пенсія ў яе невялікая. Муж яе, Георгій Цімафеевіч, нягледзячы на даволі паважны ўзрост, прыгожы, статны. Не сагнулі яго гады, ды і барада доўгая, стараверская, важнасці яму надае. Сорак чатыры гады шафёрам адпрацаваў. Пенсія ў яго большая, чым у жонкі, але гэта таму, лічыць, што мае ён другую групу інваліднасці. З гаспадаркай сёлета развіталіся, не стала сіл ні кароўку дагледзець, ні свіней. Старасць. А сыны абодва ў гарадах. Адзін у Смаргоні, прыязджае, дапамагае. Другога аж у Расію лёс закінуў.

— Ды ў нас і халасцякі ёсць, маладыя. Вось жэняцца, і маладух у вёсцы прыбавіцца,— нявесела жартуе Настасся Цімафееўна.

Вясковыя халасцякі толькі па іх мерках маладыя.

Вось сусед Гаўрыленкаў, Арсеній. Жыве ў маленькай хаціцы, якую Георгій Цімафеевіч па-руску назваў "хижиной". Мне яна больш лазню напомніла памерамі сваімі. Аднак запусцення вакол яе не бачна. Была ў Арсенія сям'я, і жыў ён у горадзе, толькі парушыла, разбурыла сямейнае шчасце горкая. Вось і вярнуўся ён у вёску, гаспадарку трымае. На пенсію ў дваццаць сем тысяч хіба пражывеш? А больш шую ён не зарабіў, сацыяльную атрымлівае. Мужык ён працавіты, акуратны. Працуе за траіх. А потым раптам запівае.

Ледзь убачыўшы нашу машыну, Арсеній паспяшаўся насустрач. Пацікавіўся:

— Вы з райвыканкама?

Даведаўшыся, адкуль мы, згубіў усялякую цікавасць да гасцей і паспяшаўся па справах. Па ўсім было бачна, што настрой у яго ў гэтыя дні самы што ні на ёсць дзелавы. Пра горкую на час забыта.

... Спачатку мы падумалі, што дом нежылы. Даўно не араны вялікі гарод, завалены голлем гародчык, буйна разрасліся кусты, няма фіранак на даўно нямытых вокнах. І толькі адліваючыя свежай жаўцізной дроўцы пад акенцам выдавалі, што тут нехта жыве. Састарэлыя дзверы прывалены кіем – знак гасцям аб адсутнасці гаспадара. Замка на дзвярах няма – гаспадар, самы малады жыхар Слабады Васіль Вараб'ёў, лічыць яго непатрэбным. Яму пару гадоў да пенсіі не хапае, а жыве са сваёй гаспадаркі. Дзвюх кароў трымае, летам цялят трое было. Хапае і на выпіўку, і на закуску.

Дзевяностагадовая Алена Рыгораўна Гаўрылёнак таксама размаўляе на чыстай рускай мове, хоць і не жыла больш нідзе, акрамя, як у Слабадзе. Тут нарадзілася і замуж пайшла, трох дачок выгадавала і састарылася. Малодшую дачку пахавала тут жа, на мясцовым пагосце.

Веру сваю Алена Рыгораўна паважае і зберагае. У ей дзяцей хрысціла, з ей і ў магілу сыдзе. Абразы на покуце ў паковах і крыж, васьміканцовы, стараверчы, завешаны фіранкамі ад чужога вока. Аднак гасцям Алена Рыгораўна радая і ахвотна паказвае стары "Псалтыр" у цяжкой скуранoй вокладцы. З гэтай кнігай ходзіць яна нябожчыкаў адпяваць, калі надарыцца ў вёсцы пахаванне.

Старэйшая дачка Алены Рыгораўны Вольга як на пенсію пайшла, так са Смаргоні сюды пераехала. Баіцца маці адну кідаць, старая яна. Але без работы Вольга Кандратаўна не сядзіць – то дыванкі кручком вяжа, то з абрэзкаў коўдрачку шые, то тапачкі з абрэзкаў скуры. А то па дому штосьці робіць ці ў двары. Развітаўшыся з намі, паспяшала ў хмызняк за домам – прынесці вязанку голля, каб печ прапаліць.

У яе, як і ў маці, вочы блакітныя і свецяцца молада, падобраму.

Дом у канцы вёскі паўколам акружылі роўненькія, адна ў адну, ялінкі. Цесна прыціснуўшыся адна да адной, яны ўтвараюць жывую агароджу.

А ў вялікім гародчыку толькі адна градачка сёлета ўскапаная была. На ей чакаюць зімы чатыры шары-качанчыкі. Забыліся пра іх гаспадары і не радыя быццам, што вырaслі яны. Склеп на панадворку для іх усё роўна добрай схованкай не стане. Праваліўся дах, пахіліліся сцены, у загародках смецце і бруд. Ды і хаціна даўно пра фарбу марыць, пра рамонт. Гаспадыня яе, з прыгожым прозвішчам Шчаслівцава, таксама з заганным зеллем пасябравала.

Кажуць, вёска жыве, калі будзяць яе штораніцы пеўні. У Слабадзе і пеўняў не чуваць. Старым нестае сілы гаспадарку дагледзець, маладзейшым не да яе. Замест пеўняў Змей на некаторых дварышчах пасяліўся. Зялёны. Страшны. Таму і апусцела Слабада.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

■ БАСКЕТБОЛ

## Пяць каманд у фіналах

**Матчамі мужчын-баскетбалістаў два тыдні таму распачаліся традыцыйныя абласныя чэмпіянаты па гульнявых відах спорту. Спачатку, як звычайна, праходзяць занальныя турніры, па дзве каманды з якіх атрымліваюць права на выступленне ў фінальных турнірах.**

У Лагойску дзве першыя пазіцыі занялі прадстаўнікі рэгіёну.

1. Маладзечна ............... 3
2. Вілейскі раён ............ 2
3. Лагойскі раён ............ 1
4. Заслаўе ..................... 0

Мінулагодняя чэмпіёны вобласці маладзечанцы ўсяго на два ачкі пераўзышлі віляйчанаў (кіраўнікі Міхаіл Газізаў і Валерый Купцэвіч). У складах вылучаліся маладзечанцы Сяргей Грачанік і Павел Лінкевіч, віляйчане Аляксандр Садоўскі і Руслан Тарабаеў. Валожынцы стартавалі, але не выбраліся з "зоны", якая праходзіла ў Мінскім раёне.

**Жанчыны ўступілі ў барацьбу 28-30 лістапада. Адна з зон праводзілася ў Вілейцы.**

1. Вілейскі раён ............ 4
2. Маладзечна ............... 3
3. Мінскі раён ............... 2
4. Лагойскі раён ............ 1
5. Маладзеч. р-н ............ 0

І тут дзве нашы каманды прадоўжаць выступленне. Дарэчы, гаспадыні (кіраўнік Віталь Вайда) выйгралі ў маладзечанак (кіраўнік Леанід Казлоў) 18 ачкоў.

Валожынкі (кіраўнік Аляксандр Кавяза), чэмпіёнкі вобласці трох апошніх гадоў, не мелі праблем у Нясвіжы ў сустрэчах з гаспадынямі і стаўбчанкамі.

У складах вылучаліся віляйчанкі Наталля Стацкая, Таццяна Газізава, Наталля Шупляк, маладзечанка Вольга Шапавал, валожынкі Вольга Купцэвіч, Ала Садоўская.

**Заўвага.** У табліцах пасляназваў каманд даецца колькасць атрыманых імі перамог.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

## Лепшыя ў рэспубліцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Упершыню ў гісторыі каманда мясцовай ДЮСШ пры аддзеле ФКСіТ (дырэктар Яўген Козел) стала мацнейшай у рэспубліканскай спартакіядзе спартыўных школ, дзе выступалі юнакі 1988-1989 г.н.**

Другое месца заняла віцебская СДЮШАР, трэцяе – гомельская СДЮШАР. Усяго былі прадстаўлены 23 школы. Маладзечанцы ў дзесяці катэгорыях выставілі чатырнаццаць удзельнікаў.

Першае месца заняў Павел Прадуха (катэгорыя да 73 кг). Другія месцы на рахунку Яўгена Туровіча (35 кг) і Дзяніса Захарава (47 кг). Трэцяе месца выйграў Мікіта Матняк (85 кг).

Чацвёртае месца, якое дазваляе ўдзельнічаць у фінальнай схватцы, дасталося Дзмітрыю Кісялю (32 кг) і Максіму Саломку (66 кг).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МОТАСПОРТ

# Ракочуць маторы

**АШМЯНЫ. Нагадаем нашым чытачам, што Ашмяны – вядомы цэнтр беларускага мотакросу. Тут знаходзіцца адна з лепшых трасаў у краіне, якая напрыканцы дзевяностых гадоў прымала нават міжнародныя спаборніцтвы. Тут жыве і лідэр апошняга дзесяцігоддзя ў айчынных гонках па ўхабістай дарозе Аляксандр Гіруць.**

Тры гады таму ў інтэрв'ю "РГ" ён расказваў аб сваёй доўгай кар'еры, паспяховых выступленнях не толькі на Радзіме, але і ў адкрытых чэмпіянатах Расіі і Польшчы. Таксама ішла гутарка аб складаным становішчы ў Беларусі яго віду спорту, які, падобна ўсім тэхнічным, патрабуе значных выдаткаў. Адсюль вынікае немагчымасць на роўных змагацца з лепшымі еўрапейскімі красменамі.

Цяпер сітуацыя амаль не змянілася, праўда, унітарнае вучэбнае вытворчае прадпрыемства "Ашмянская аўташкола" Гіруцю набыла якасны матацыкл "Хонда". Аўташкола наогул дапамагае чым можа на працягу сезона. Цяпер, дзе б Аляксандр ні выступаў, робіць гэта пад яе "сцягам". Дарэчы, пад кіраўніцтвам трэнера аўташколы Уладзіміра Даўлятэвіча займаецца група дзяцей, якім кupленыя "жалезныя кані" мінскага завода.

Сама траса належыць клубу "Фаварыт" (старшыня Юрый Лопух). У клубе афіцыйна знаходзіцца некалькі спартсменаў. Напрыклад, зусім юны Максім Зык. Гэты дванаццацігадовы хлопец ездзіць з бацькам і з механікам на спаборніцтвы ў Польшчу, Літву, Расію. Працягвае выступаць у замежжы і Юрый Лопух, напрыклад, у Прыбалтыцы, дзе праводзяцца старты ў класе "Хобі" для ўзроставых гоншчыкаў.

Гіруць быў вясной на зборах у Калінінградскай вобласці. Выступаў на спаборніцтвах у Літве і на Украіне. Разам з яшчэ двума беларусамі прыняў удзел у чэмпіянаце свету, які ў верасні прымала Бельгія, але дамагчыся значных дасягненняў на такім узроўні было складана.



Мотакрос прыцягвае гледачоў сваёй дынамічнасцю. Фота з інтэрнет-архіву.

Аляксандр выступіў на пяці з васьмі этапах адкрытага чэмпіянату Польшчы. Заняў у выніку чацвёртае месца. У Беларусі, што называецца, без пытанняў перамог на ўсіх сямі этапах чэмпіянату краіны.

Адзін з гэтых этапаў у чэрвені праходзіў у Ашмянах. На жаль, у апошнія гады раённае кіраўніцтва не імкнецца праводзіць спаборніцтвы па мотакросе цікава і запамінальна для гледачоў. Гонкі ўсіх мацнейшых красменаў Беларусі атрымалі статус радавога мерапрыемства. Хаця, здавалася б, гэта якраз той від спорту, якім Ашмянскі раён адметны сярод сваіх суседзяў, у якім ён можа гучна заявіць пра сябе.

Удзельнічаюць звычайна на этапе чалавек сорак, ад дзяцей (аб'ём рухавіка 80 см³) да майстроў (250 см³). Праводзяцца ўнутры краіны і іншыя старты, у асноўным, камерцыйныя.

У Беларусі каманды складаюцца там, дзе ёсць добрая траса. Паступова, нягледзячы на вельмі складаную фінансавую сітуацыю, з'яўляюцца новыя майстры-гоншчыкі. Так што пакуль мотаспорт існуе, не выраджаецца.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АМАТАРСКІ СПОРТ

# Па месцы жыхарства

**МАЛАДЗЕЧНА. Напрыканцы мінулага тыдня 28-30 лістапада горад прымаў фінальныя абласныя спаборніцтвы сярод цэнтраў фізкультурна-аздараўленчай работы па месцы жыхарства. Кожны з пяці відаў спорту сабраў розную колькасць каманд: ад трох да шасці.**

Гаспадары, што называецца, задавалі тон, трапіўшы ў прызёры ва ўсіх відах. Праўда, перамагчы яны змаглі толькі ў міні-футболе. Для справядлівасці трэба зазначыць, што такія буйныя гарады, як Барысаў і Салігорск, нават не імкнуліся скласці канкурэнцыю. Відаць, тамтэйшыя кіраўнікі лічаць мінулыя спаборніцтвы не надта важнымі.

Пераможцы па кожным відзе атрымалі права прадстаўляць вобласць на рэспубліканскім фінале ў Наваполацку 12-14 снежня. Такім чынам, з рэгіёну туды адправіцца адна каманда. Дарэчы, у Гродзенскай вобласці падобныя спаборніцтвы не праводзіліся. Дэлегатамі ж на "рэспубліку" сталі прадстаўнікі Ленінскага раёна аблцэнтра – мацнейшыя ў агульным заліку спартакіяды працоўных.

У міні-футболе маладзечанцы (кіраўнік Уладзімір Жукоўскі) перамаглі Нясвіжскі раён 9:0 і Слуцк 8:5. Гулялі варатар Аляксандр Мароз, палявыя Аляксандр Грыхуцік, Сяргей Дакурна, Віталь Казяк, Максім Невядомскі, Сяргей Півавар, Мікалай Татун.

Валейбольныя баталіі сярод мужчын прынеслі гаспадарам (кіраўнік Уладзімір Мякшыла) другое месца. Лепшым на турніры жодзінцам яны саступілі з мінімальным лікам 1:2. У складзе вылучаліся Павел Гарудка, Алег Гошталд і малады Сяргей Паслед.

Таксама другое месца маладзечанцы занялі ў агульным заліку па настольным тэнісе (кіраўнік Павел Герасімюк) пасля горада Слуцка. У асабістым заліку было два другія месцы на рахунку Сяргея Карэўкі сярод мужчын і яго ж разам са Святланай Хрусталёвай у змешанай пары.

Спаборніцтвы па аэробіцы складаліся з групавых (шэсць чалавек) і сольных (у дзвюх узроставых групах) выступленняў. У агульным заліку маладзечанкі пад кіраўніцтвам Алы Корбут занялі другое месца, а прадстаўніцы раёна, якіх у Беразінскім падрыхтавала Святлана Дзэніс, сталі трэцімі. Перамагла ж каманда Пухавіцкага раёна.

Жаночы турнір па валейболу прынёс гаспадыням (кіраўнік Мая Шарыкіна) трэцяе месца ўслед за Старадарожскім раёнам і Мінскім раёнам.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ БАСКЕТБОЛ

**Чарговыя матчы Балтыйскай лігі правяла юніёрская зборная краіны.**

На гэты раз сапернiцамі былі суайчынніцы, а матчы завяршыліся паражэннямі. У Мінску ад барысаўскай "Бярэзіны" – 54:63 (Дурэйка набрала 7 ачкоў, Рынкевіч – 2), у Гродне ад мясцовай "Алімпіі" – 64:66 (Дурэйка – 6, Рынкевіч – 0). У табліцы дзяўчаты дзеляць 11-13 месцы з шаснаццаці каманд, маючы дзве перамогі пасля сямі матчаў.

На мінулым тыдні стала вядома формула правядзення паўфінальнага турніру юніёрскага чэмпіянату Еўропы. У адной з трох груп 14-18 красавіка ў літоўскім Друскінінкаі збяруцца шэсць зборных: акрамя беларусак, нашы суседкі Літва, Латвія, Расія, Украіна, а таксама Харватыя. Права выхаду на фінальны турнір атрымаюць тры альбо нават чатыры лепшыя каманды.

■ ФУТБОЛ, ЮНАКІ

**СМАРГОНЬ. У прайшоўшым сезоне каманда мясцовай ДЮСШ 1988 г.н. (трэнер Сяргей Атрошка) заняла чацвёртае месца з дзесяці ўдзельнікаў у абласной спартакіядзе.**

Вячаслаў Замара быў уключаны ў склад зборнай вобласці, з якой заваяваў першае месца на рэспубліканскай спартакіядзе ў Кобрыне. Ён з'яўляецца кандыдатам у зборную краіны гэтага ўзросту.

Аляксей Беніцэвіч (трэнер Віктар Страшынскі) у складзе зборнай вобласці на Алімпійскіх днях моладзі 1987 г.н., якія праходзілі ў Смаргоні, заняў трэцяе месца.

Аляксей Камінскі (трэнер Уладзімір Гаўрылкевіч), які 1989 г.н., быў перададзены ў РВАР. Нагадаем, што там жа вучацца і Вячаслаў Замара, і член юніёрскай зборнай краіны 1986 г.н. Леанід Ковель, і яго аднагодак Вадзім Дыро. У складзе каманды РВАР яны занялі чацвёртае месца ў чэмпіянаце другой лігі. Ковель правёў 23 матчы, забіў 20 галоў. Дыро і Замара правялі адпаведна 2 і 1 матч.

■ ШАХМАТЫ, ШАШКІ

**МАЛАДЗЕЧНА. На першынство горада сярод прадпрыемстваў у залік круглагадовай спартакіяды сабраліся дзевяць калектываў.**

У шахматах перамога засталася за "Электрамодулем" у складзе Сяргея Зыскіна і Аляксандра Котава. У шашках выйгралі прадстаўнікі БелТІЗ у складзе Мікалая Акульскага і Станіслава Лабецкага.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ СПАРТАКІЯДА

МЯДЗЕЛ. Прайшла спартакіяда "Здароўе" Нарачкага сельсавета. На 6 відах спорту змагаліся каля 150 чалавек. У камандным заліку перамагла школа з Купы. Другое і трэція месцы занялі каманды санаторыяў "Белая Русь" і "Прыазёрны".

**Аддзел інфармацыі.**

■ АНОНС

**5-6 снежня. Маладзечна. Лёгкаатлетычны манеж. Традыцыйныя спаборніцтвы па бегу "Залатая міля" сярод юнакоў і дзяўчат розных узростаў.**

У пятніцу з 17-00 эстафеты 4 па 400 метраў. У суботу з 12-00 старты на дыстанцыях 1 міля і 1 вярста.

**8-11 снежня. Смаргонь. Спарткомплекс "Юнацтва". Тур дзіцячай баскетбольнай лігі сярод дзяўчынак 1989 г.н. і меншых.**

Матчы ў панядзелак з 13-00, у аўторак і сераду з 12-00, у чацвер з 9-00.

# ВІНШАВАНКІ

**Ладочкина Татьяна Ивановна**!



Сердечно поздравляем Вас
с юбилеем!
Желаем в работе скорости,
В здоровье – бодрости,
В счастье – вечности,
В жизни – бесконечности.
От солнца – тепла,
От людей – добра,
От детей – нежности,
От друзей – любви и верности.
*С любовью от семьи Ладочкиных и Пашкевич.*

Дорогой папочка,
**Еремей Михайлович Василевич**!
Пусть весь мир знает, что ты самый лучший.
С днём рождения тебя, с юбилеем!
Целуем и обнимаем.
*Твоя семья.*

Дорогой сыночек,
**Сергей Кажуро**!
Поздравляю тебя с днём рождения,
с 17-летием!
Желаю здоровья. Самого блестящего!
Большого счастья, настоящего.
Чтоб каждый день был светлым,
ясным,
А мир всегда вокруг – прекрасным.
*Твоя любящая мама.*

З 17-годдзем!
**Дзмітрыю Аляксандравічу Пакладку**!
Любы сынок! Сардэчна віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, удачы.



Няхай жыццё квітнее буйным цветам,
І нараджэння дзень прыходзіць
зноў і зноў.
А доля няхай дорыць з кожным годам
Здароўе, шчасце, радасць і любоў.
Няхай заўсёды Бог аберагае
Ад зла, хваробы і журбы
І ласку шчодра пасылае
Сёння, заўтра і заўжды.
*Маці і тата.*

**Ірынка Пракопчык**! Сонейка, віншую цябе з днём нараджэння!!! Самае крэатыўнае ў маім жыцці – гэта ты! Я люблю цябе такой, якая ты ёсць. *Валянціна.*

**Дзмітрыя Талайку**, любімага сына, віншуем з 25-годдзем! Жадаем здароўя, сямейнага дабрабыту, мудрасці, цярпення. *Бацькі.*

**Наталлю Фешчанку** віншуем з днём нараджэння. Кахання, узаемаразумення, цярпення і як мага больш радасці. *Цётка Галя і яе сям'я.*

**Ірыну Кульбаку** віншую з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, удачы, сямейнага дабрабыту. *Рэгіна.*

**Ганначку Луцкую** віншую з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, удачы. *Рэгіна.*

**Ніну Аляксееўну Умен** віншую з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, поспехаў, сямейнага дабрабыту. *Рэгіна.*

## ■ ІМЯНІНЫ

**5 снежня**
**Праваслаўныя**: Архіпа, Максіма, Пятра.
**Каталіцкія**: Крыстыны.
**6 снежня**
**Праваслаўныя**: Аляксея, Макара, Мітрафана, Рыгора, Фёдара.
**Каталіцкія**: Мікалая, Змільяна.
**7 снежня**
**Праваслаўныя**: Кацярыны, Сімона.
**Каталіцкія**: Амбражэя, Марціна.
**8 снежня**
**Праваслаўныя**: Клімента, Пятра.
**Каталіцкія**: Лаўрэнцыі.
**9 снежня**
**Праваслаўныя**: Георгія, Інакенція, Якава.
**Каталіцкія**: Леакадзіі.
**10 снежня**
**Праваслаўныя**: Рамана, Усевалада, Якава.
**Каталіцкія**: Марыі, Юліі, Данеля, Рыгора.
**11 снежня**
**Праваслаўныя**: Васіля, Івана, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Клары, Вальдэмара, Дамаза.



# ЗНАЁМСТВЫ

Прыемная жанчына, 62/165/70, пазнаёміцца з мужчынам з сельскай мясцовасці для сумеснага жыцця. Згодна на пераезд. 222310, Маладзечна-6, п/п ВН 0048818.

## Кінатэатр «Радзіма»

**5-7 снежня. "Ліга выдатных джэнтльменаў"**, ЗША, прыгоды – у 17.00, 19.10 і 21.20. 6 і 7 снежня – у 15.00, 17.00, 19.10 і 21.20.

**8-14 снежня. "Ліга выдатных джэнтльменаў"** – у 19.10. "Як адчапіцца ад хлопца за 10 дзён", ЗША, рамантычная камедыя – у 17.00 і 21.20.

### Для дзяцей

**6 і 7 снежня. "Капітошка"**, Расія, мультпраграма – у 13.00.

**Дыскатэка**: у пятніцу – з 21.00 да 1.00, у суботу — з 21.00 да 2.00, у нядзелю – з 20.00 да 24.00.

Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.

### Служба Дзеда Мароза

Які ж Новы год без Дзеда Мароза і Снягурачкі? Запрасіце іх да сябе дадому, і яны наладзяць вашым дзецям і вам сапраўднае свята.

Тэл. для даведак: 7-17-02, 7-72-92.

Кінатэатр "Радзіма", дыскатэка "Медыум" запрашаюць на навагоднія ранішнікі. У праграме: святочная дыскатэка, гульні, сюрпрызы, конкурсы ад Дзеда Мароза і Снягурачкі, салодкі стол.

Прымаем калектыўныя заяўкі ад арганізацый і навучальных устаноў. Тэл. для даведак: 7-06-30, 7-17-02.

## Купон 49

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ STOP-КАДР

# Сабачае жыццё



**Верны, як сабака, часам кажуць людзі, калі хочуць падкрэсліць празмерную адданасць аднаго чалавека другому. Чаму-чаму, а вернасці ў жывёлін і сапраўды можна павучыцца. Хаця б у гэтых, што часцяком сядзяць ля ўвахода на Маладзечанскі рынак райспажыўтаварыства з сумкай у зубах. Не на курыную костачку на абед і не на сухі корм ад якой-небудзь вядомай кампаніі зарабляюць сабачкі. Усе ахвераванні, што трапляюць у іх "капілку", ідуць, напэўна, на гарэлку гаспадару. Большасць маладзечанцаў ведае гэта і ўсё роўна кладзе купюры ў сумку. Ці ж пройдзеш міма сумных, поўных болю і нямой мальбы вачэй?**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ АКЦЫІ

## Ты народжаны, каб жыць!

**МАЛАДЗЕЧНА. Не толькі рытмічная дыскатэчная музыка, але і акцыя "Ты народжаны, каб жыць!", прысвечаная Сусветнаму дню барацьбы са СНІДам, сабралі моладзь 29 лістапада ў кінатэатры "Радзіма".**

Адкрыла мерапрыемства, падрыхтаванае шматлікімі грамадскімі арганізацыямі, выступленне клуба аўтарскай песні цэнтра пазашкольнай работы. А юныя спартсмены клуба ўсходніх адзінаборстваў "Белы журавель" паказалі нумары, якім навучыліся ў клубе.

Асаблівая ўвага надавалася прагляду відэафільмаў. Адзін з іх расказваў аб тым, як у горадзе дзейнічае праграма "Роўны навучае роўнага". Мы яшчэ раз пераканаліся, што, калі лекцыі дарослых аб СНІДзе падлеткам здаюцца нуднымі, то заняткі з аднагодкамі, наадварот, цікавымі, асабліва калі яны суправаджаюцца гульнямі і віктарынамі. Другі відэафільм быў непасрэдна аб жудасным вірусе і завастрыў увагу моладзі на праблеме, якая тычыцца ўсіх.

**Ганна ІЎЖЫЧЭНКА, юнкор цэнтра пазашкольнай работы.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



Прывітанне! На гэты раз білеты атрымаюць усе, хто даслаў нам правільныя адказы на абодва прапанаваныя заданні. Гэта **Юрый Юхневіч, Дзмітрый Пакладок, Ігар Сільвановіч, Вольга Палівода**. Віншуем і запрашаем у рэдакцыю! А вось **Аляксей Шчасны** і **Л.Н.Кендыш** справіліся толькі з адным заданнем. Перастаўляць запалкі трэба было так:



Чым вабяць чалавека галаваломкі? Мабыць, тым, што ў іх няма з кім спаборнічаць, і ў той жа час заўсёды ёсць магчымасць праверыць сябе: уменне лагічна разважаць, фантазію, цярпенне, настойлівасць у дасягненні мэты.

Сёння я прапаную вам паламаць галаву над лагічнымі задачкамі.

1. Калі ад кожнага з 2 лікаў адняць палову меншага з іх, то астатак ад большага будзе ўтрая большы астатка ад меншага. У колькі разоў большы лік большы за меншы?

2. Двое спадарожнікаў неслі чамадан. Каб не пакрыўдзіць адзін аднаго, яны праз кожны кіламетр чаргаваліся. На апошніх паўтара кіламетрах яны так загаварыліся, што адзін забыўся перадаць, а другі забыўся ўзяць чамадан. Урэшце, першы спадарожнік пранёс яго удвая большую колькасць кіламетраў, чым другі. Колькі разоў перадавалі спадарожнікі чамадан з рук у рукі?

Чакаю вашых адказаў да наступнага аўторка (уключна). Будзе разыграна 5 білетаў. Калі лічыце сённяшнія заданні вельмі лёгкімі ці нецікавымі – дасылайце свае! Пажадана з адказамі!

І яшчэ адно паведамленне! Па выніках лістапада у нас новы лідэр - **Аляксей Шчасны**. Віншую! Заходзь, калі ласка, да нас за прызам!



**Чытачоў азадачвала Аксана КУЛЕЎНІЧ.**

■ ВІКТАРЫНА

## Мая Беларусь – 2

**Вітаем удзельнікаў конкурсу "Мая Беларусь"! Мы рады, што ў нашай газеты ёсць такія цікаўныя і разумныя чытачы, як вы. У гэтым нумары даём правільныя адказы на пытанні другога тура.**

1. Па загадзе славутага полацкага князя **Усяслава Чарадзея** распачалося будаўніцтва Сафійскага сабора ў Полацку. І менавіта ён са сваім войскам удзельнічаў у страшнай бітве, якая апісваецца ў "Слове пра паход Ігаравы".

2. Майстар Аванес Маджаранц пераехаў у Беларусь са **Стамбула**.

3. Сімвалам кахання і вернасці лічыцца **лебедзь**. І менавіта гэта птушка ўпрыгожвае радаводны герб Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

4. **Балоты** з'яўляюцца аб'ектам даследавання Мінскай, Касаўскай і Палескай станцый.

5. Самая высокая кропка Беларусі – гара Дзяржынская – да 1958 года насіла назву **Святая гара**.

6. Фабрыкі па вытворчасці **люстраў** працуюць у Мінску, Гомелі, Бабруйску і Целяханах.

Вынікі другога тура і пытанні трэцяга чытайце ў наступным нумары. Нагадваем, за кожны правільны адказ налічваецца адзін бал. Вы таксама маеце магчымасць зарабіць дадатковы бал, калі ваша думка пры вызначэнні найлепшага пытання супадзе з думкай большасці удзельнікаў тура. Далучайцеся – вы яшчэ можаце перамагчы!



**Конкурс вядзе Мікола ЛІПСКІ.**

